наша
# свабода

№47 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

8 ЖНІЎНЯ 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Дзверы ў Еўропу зачыняюцца

Рыгор БУЯН

**Вельмі хутка Беларусь можа аказацца ў яшчэ больш шчыльным коле міжнароднай ізаляцыі, чым цяпер. Апошні візіт дэлегацыі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПА СЕ) 31 ліпеня – 4 жніўня выразна прадэманстраваў, што дзверы перад Беларуссю ў цывілізаваную Еўропу зачыняюцца.**

Місія ПА СЕ ў складзе старшыні камітэта па палітычных пытаннях Тэры Дэвіса, спецыяльнага дакладчыка па Беларусі Вольфганга Берэндта і дакладчыка ад камітэта па правах чалавека і юрыдычных пытаннях Цырылы Свабоды прыязджала ў Беларусь з мэтай высвятліць – ці могуць у існуючых умовах прайсці дэмакратычныя, свабодныя і справядлівыя выбары ў парламент, запланаваныя на 15 кастрычніка. Пасля чатырохдзённых сустрэчаў з прадстаўнікамі ўладаў, апазіцыі, незалежных сродкаў масавай інфармацыі, прафсаюзаў і «трэцяга сектара», якія праходзілі ў надзвычай напружаным рытме, еўрапейцы прынялі цяжкае, але прагназуемае рашэнне: не рэкамендаваць кіраўніцтву ПА СЕ накіроўваць міжнародных наглядальнікаў на восеньскія выбары.

«Мы надзвычай расчараваныя вiдавочным недахопам прагрэсу ў адносінах да стварэння адэкватных умоваў, неабходных для правядзення свабодных і сумленных выбараў у Беларусі», — такую заяву зрабіў кіраўнік дэлегацыі ПА СЕ Тэры Дэвіс на выніковай прэс-канферэнцыі 4 жніўня. Місія не заўважыла ў беларускіх уладаў вялікага жадання выконваць патрабаванні АБСЕ, у адказ на што Еўропа магла б прызнаць восеньскія выбары ў палату прадстаўнікоў. Члены дэлегацыі адзначалі, што пасля апошняга — напачатку сакавіка — прыезду ў Мінск дасягнуты «вельмі невялікі прагрэс» у выкананні ўмоваў АБСЕ: не ўстаноўленая дастатковая празрыстасць выбарчага заканадаўства; няма ніякіх гарантыяў, што апазіцыя будзе мець непрадузяты доступ да электронных дзяржаўных СМІ, асабліва пасля прызначэння на пасаду старшыні Белдзяржтэлерадыёкампаніі старшыні Камуністычнай партыі Беларусі Віктара Чыкіна; не нададзеныя значныя функцыі парламенту і не створаны «перыяд даверу» на час кампаніі.




Старшыня камітэта па палітычных пытаннях ПА СЕ Тэры Дэвіс пасля візіту да палітзняволеных Андрэя Клімава і Уладзіміра Кудзінава

Фота IREX/ProMedia

Найбольшую занепакоенасць парламентарыі Савета Еўропы выказалі з-за парушэння правоў чалавека на Беларусі. Еўрапейцы маглі на ўласныя вочы пабачыць, як «захоўваюцца» правы чалавека: 3 жніўня Тэры Дэвіс, Вольфганг Берэндт і Цырыла Свабода наведалі Мінскі следчы ізалятар на вуліцы Валадарскага і калонію на вуліцы Кальварыйскай, дзе прыкладна па 20-25 хвілінаў размаўлялі са зняволенымі дэпутатамі Вярхоўнага Савета Андрэем Клімавым і Уладзімірам Кудзінавым. Пасля сустрэчаў дакладчык ад камітэта па правах чалавека і юрыдычных пытаннях Цырыл Свабода заявіў: «Мы лічым, што яны там знаходзяцца па палітычных прычынах». Дэпутат з Чэхіі паведаміў, што «тройка ПА СЕ» «ўжо звярнулася да прэм'ер-міністра Беларусі і да міністра юстыцыі з просьбаю зрабіць захады дзеля вызвалення спадароў Клімава і Кудзінава».

Апрача таго, паміж сакавіцкім і жнівеньскім візітамі суды вынеслі абвінаваўчыя прыгаворы экс-прэм'еру Міхаілу Чыгіру і старшыні Народнай Грамады Міколу Статкевічу, якія ўжо заявілі пра намер балатавацца ў дэпутаты. Маючы за плячыма судзімасць, няхай сабе і ўмоўную, абодвум будзе надзвычай цяжка выставіць кандыдатуру на парламенцкіх выбарах. За гэты час знік яшчэ адзін чалавек – 7 ліпеня ў аэрапорце «Мінск-2» згубіліся сляды аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага. Пра палітычную падаплёку чарговага знікнення гаворыць увесь свет. Пасля сустрэчаў з блізкімі зніклых палітыкаў: Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі, бізнесмена Анатоля Красоўскага – місія ПА СЕ выказала недаўменне відавочнай няздольнасцю ці нежаданнем раскрыць альбо вытлумачыць гэтыя справы.

З усяго відаць, што беларускія ўлады праігнаравалі дапамогу міжнароднай супольнасці ў вяртанні на дэмакратычны шлях развіцця. Таму місія ПА СЕ не бачыць магчымасці і не будзе рэкамендаваць кіраўніцтву Савета Еўропы накіроўваць наглядальнікаў на восеньскія выбары. Праўда, канчатковае рашэнне па «беларускім пытанні» ПА СЕ, АБСЕ і Еўрапарламент прымуць на адмысловай тэхнічнай канферэнцыі ў Вене 30 жніўня. Перад тым еўрапейскія арганізацыі правядуць 13 жніўня ў сталіцы Аўстрыі папярэдні раўнд канферэнцыі.

Але як бы там ні было, дзверы ў Еўропу перад Беларуссю паступлова зачыняюцца. І гэта ясна ўсім. ■

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Каля 1.400 літоўцаў паведамілі ўраду, што былі агентамі КГБ СССР.** У адпаведнасці з законам, прынятым у лютым гэтага года, для добраахвотнага прызнання, з гарантыяй канфідэнцыйнасці, адводзіўся шасцімесячны тэрмін, які якраз скончыўся ў мінулую суботу. Тыя, хто супрацоўнічаў з савецкімі спецслужбамі і не захацеў паведаміць пра гэта, рызыкуюць згубіць работу, калі такія факты стануць вядомымі. Справа ў тым, што закон забараняе колішнім сексотам займаць большасць дзяржаўных пасадаў і абмяжоўвае магчымасці працаўладкавання ў прыватных кампаніях. Апрача таго, інфармацыя аб іх супрацоўніцтве з КГБ будзе абнародаваная. Паводле праведзенага ў ЗША на замову тэлекампаніі *CNN* і газеты *USA Today* сацыялагічнага даследавання, кандыдат у прэзідэнты ад рэспубліканскай партыі Джордж Буш-малодшы апярэджвае свайго канкурэнта – дэмакрата Эла Гора на 17%. Дэмакраты робяць выгляд, што не дужа занепакоеныя гэтымі дадзенымі, маўляў, розніца ў рэйтынгах адзін да аднаго супадае з вынікамі апытання тых жа самых СМІ ў 1988 годзе. Тады дэмакрат Майкл Дукакіс таксама меў 17-адсоткавы адрыў ад рэспубліканца Джорджа Буша-старэйшага, але выбары прайграў.

■ **У Нямеччыне гульцы ў гольф усур'ёз затурбаваліся лёсам... кароваў.** Нямецкая федэрацыя гэтага віду спорту абвясціла, што мае намеры спансаваць праграму навуковых даследаванняў на тэму «Ці шкодныя для здароўя кароваў мячыкі для гольфа?» Справа ў тым, што гэтыя хатнія жывёлiны досыць часта «спажываюць» іх разам з травой, калі тыя выпадкова заляцяць на пашы з суседніх гольфавых палёў.

■ **Перад прэзідэнцкімі выбарамі 24 верасня ў сербскай апазіцыі маюцца дзве кандыдатуры будучага суперніка цяперашняга югаслаўскага прэзідэнта Слабадана Мілошавіча.** Буйнейшая апазіцыйная партыя Сербскі рух абнаўлення высунула ў нядзелю кандыдатуру былграрскага мэра Ваіслава Міхайлавіча. Ён – унук папулярнага лідэра сербскіх партызанаў-манархістаў часоў Другой сусветнай вайны, генерала Дражэ Міхайлавіча, забітага пасля камуністамі Ціта. Іншыя апазіцыйныя партыі збіраюцца падтрымаць на выбарах лідэра Дэмакратычнай партыі Сербіі Ваіслава Каштуніцу.

# «Баркашоўца» зарэзалі ў пад'ездзе

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**У Мінску ў пад'ездзе свайго дома быў зарэзаны лідэр беларускай філіі РНЕ («Русского национального единства») 22-гадовы Глеб Самойлаў. Гэта адбылося з раніцы ў суботу.**

Як сведчаць бацькі забітага, зранку ім дахаты патэлефанаваў нехта і выклікаў Глеба на размову. У 8 гадзінаў ранку суседзі знайшлі цела Г.Самойлава на 5-м паверсе (сам ён жыў на 9-м). У яго пад сэрцам былі тры нажавыя раненні. Міліцыя сцвярджае, што ўчастак ад сёмага да пятага паверху Г.Самойлаў здолеў прайсці ці прабегчы сам.

На месцы забойства міліцыянты знайшлі нож і акуляры, якія не належалі забітаму. У той жа дзень быў праведзены ператрус у штаб-кватэры РНЕ.

Як вядома, РНЕ – шавіністычная нацыстаўская арганізацыя, якая ставіць сваёй мэтай дамінаванне людзей расійскай нацыянальнасці ў Расіі і свеце. Асабліва нецярпіма РНЕ ставіцца да асобаў, якія маюць хоць каплю габрэйскай крыві. У Беларусі РНЕ афіцыйна не зарэгістраванае, але мае свае аддзяленні ва ўсіх абласцях краіны. ▶



*Заканчэнне на стар.3*

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА






**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»** 985

# Субстанция в акватории проруби

Александр ДУБРАВИН

**«Выступая перед цивилизованным сообществом, белорусский политик Л.» ...Написал — и сам удивился формулировке. Кто пустил его выступать перед цивилизованным сообществом? Политик ли этот Л.? Белорусский ли он политик? Есть ли вообще в Беларуси политики? И есть ли до сих пор Беларусь?»**
**Александр Федута.**
**«Товарищ, верь!»,**
**«СН»№28**

«Выступая перед почтенной публикой, белорусский журналист Ф.». ...Написал – и сам удивился формулировке. Кто его пустил к этой публике? Журналист ли этот Ф.? Белорусский ли он журналист? И журналист ли он вообще?

Столько вопросов и на все есть ответы. Итак, журналист Ф. вначале служил учителем, затем подвизался в комсомоле, затем подпал под обаяние политика Л. и поверил ему, как девочка. (Не того Л., о котором речь в эпиграфе, а другого). После прихода шефа к неким властным рычагам, полный радостных ожиданий Ф. стал служить у него в качестве смотрящего за журналистами. Отличился массовыми запретами на публикацию компрометирующих Л. материалов. Служил верно, но, как утверждают его недоброжелатели, приватно сплавлял информацию налево. За все за это политик Л. жестоко разочаровал Ф., выжал его, как лимон (очень недолгий был процесс), и выбросил вон. Но Ф. сделал вид, что в нем еще много чего осталось, и в это поверил издатель и редактор «БДГ» М., который пригласил Ф. в свою газету писать прогнозы и воспоминания за зарплату. Так Ф. превратился в журналиста и получил доступ к почтенной публике.



Человек, очень похожий на журналиста Ф.

Аванс матерого редактора и ожидания читателей вскружили голову неопытному Ф., и он начал гнать полную ахинею. Брал, например, литературное эссе о Пушкине и разбавлял его знакомыми фамилиями. (Представьте себе: графа Бенкендорфа вдруг сравнивают с каким-нибудь ныне промышляющим отставным полковником З.! Можно сгоряча даже подумать, что это смелая критика. Но какая это честь и стимул для ничтожного З.! Или ни к селу, ни к городу цитируют чего-нибудь вроде «Евгения Онегина» в применении, скажем, к подробностям подковерной борьбы номенклатурной «братвы». Да за такие параллели не жаль выставить и ящик водки!). Впрочем, может быть я и ошибаюсь. Все его творчество того периода слилось в моей голове в какую-то лекцию о Пушкине и декабристах. Писал обильно, ассоциативно, влажно, с курсивами, кокетством и поклонами перед начальниками. В лирических отступлениях изредка напоминал неверному политику Л. о своей преданной службе и между строк укорял, что тот не оценил в полной мере такой кадр. (В результате чего читатель невольно начинал уважать политика Л. за кадровую политику).

Короче говоря, вся его значительность базировалась тогда на знании истории литературы соседней страны и нравов персонажей закулисных интриг наших горкомов и обкомов. Кто когда кому чего лизнул и что на самом деле надо было лизать. В этом он был крупный специалист. Затем Ф. родил цикл эпопеистых материалов ни о чем с вертикальщиками областей в главных ролях. Описывал их любовно, со знанием психологии каждого и старательно обходил острые углы. На всякий случай.

Новое ремесло постепенно осваивалось. Писал Ф. всегда исключительно на русском языке. Но Пушкин был вскоре забыт. Выработалась своя интонация: скептичная, ироничная, загадочная. Пополнился лексический запас. Политическую оппозицию нынешнему режиму журналист Ф. старался при любой возможности брыкнуть полунамеками и недосказанностями. Многое ставил под сомнение. Однако для прочного положения в «БДГ» всего этого было мало. Газета серьезная, аналитическая. Поэтому журналист Ф. взялся за прогнозы, которых понаписал воз и маленькую тележку. И ни один из этих прогнозов не сбылся. Но зато Ф. получил известность как недюжинный аналитик. Непонятным образом он вдруг стал поверенным в тайны вдруг исчезнувшей банкирши В. И даже отважно кое-что по этому поводу намекал! Вслед за тем он как-то скоропостижно иссяк в «БДГ». Но возомнил. На политиков не при власти смотрел свысока, позволял себе снисходительно их поучать. Известного политика Ч., например, он довольно развязно называл наивным, очевидно путая свою наивность с его порядочностью.

Собственное честолюбие не давало Ф. покоя. И, несмотря на полный бойкот всеми умными людьми проводимых политиком Л. недемократических местных выборов, Ф. ринулся в них с головой. Тут же беднягу завернули, не приняв собранные им подписи, и отправили восвояси. Так, как обычно это делает пьяный хозяин, когда жестоко пинает в гузно собутыльника, у которого нет денег.

Это, однако, ничему Ф. не научило. Политика влекла неудержимо. Он душевно прильнул на некоторое время к деятелю Г., создавая ему на страницах «Народнай Волі» помпезную раму в багете. Но был, по-видимому, не востребован. Потому вдруг совершил антраша в сторону политички А. и с ее подачи оказался в фарсовом общественно-политическом диалоге, где стал изображать какую-то согласительную работу в какой-то экспертной группе по средствам массовой информации. В результате получил то, о чем и предупреждали умные люди: очередной пинок. И об этом, без стыда и совести, в подробностях поведал в газетах...

Описание карьеры и страданий неудачника Ф. как подручного неких влиятельных лиц было бы неполным, если бы мы не указали на причину его несчастий. Каким бы ни были политики Л., Г., А., или другой Л., но им в качестве помощника, соратника и партнера нужен надежный человек. А похождения журналиста Ф. свидетельствуют, прежде всего, об отсутствии именно этого качества. Они напоминают о дрейфе некоей субстанции по акватории некоей проруби.

Если же рассуждать о шансах Ф. как самостоятельно действующей единицы, например, в будущей «палате», то почему бы и нет? Во всяком случае, внешность его соответствует принятым в этом учреждении стандартам. Более того, мне думается, что господин Ф. есть плоть от плоти и кровь от крови нынешней власти и оказался за ее бортом *лишь в силу своей неопытности*. Нужно было после первого пинка затаиться так, как это сделал другой политик, некто Б., называемый белорусским Аленом Делоном. Тоже ведь что-то о себе мнил и выступал, но потом успокоился. И благодарный политик Л. вернул его к корыту.

Кроме того (рискну дать совет!) господин Ф. должен перестать умничать, изображая из себя демократа и борца. Во-первых, в тех кругах, куда он так упорно стремится, такие позы не приветствуются. Народ там простой и грубый. Во-вторых, гладкий лоб незачем портить морщинами.

И еще одно, но самое существенное замечание. Журналисту Ф. давно пора перестать завидовать другим: почему, дескать, их принимает цивилизованное сообщество, а меня нет? Я, дескать, тоже ничем не хуже. А тот политик Л., которого принимают за рубежом, он очень плохой. Он бяка. Не политик и не белорусский. Его просто нет. Да и вообще, такой страны нет. А есть только Я! СубстанциЯ! ■

Рэдакцыя прапануюе сваім падпісчыкам аформіць падпіску праз аддзяленні «Беларусбанка».

**Для афармлення падпіскі адпаведную квітанцыю (гл. ніжэй) трэба выразаць нажніцамі. Адзначце ў квітанцыі тэрмін, на які афармляеце падпіску, прозвішча падпісчыка і паштовы адрас, на які дастаўляць газету.**

**Кошт падпіскі на адзін месяц 675 руб. Калі вы жадаеце падпісацца на большы тэрмін, то павялічце суму ў адпаведную колькасць разоў.**

## КВІТАНЦЫЯ ДЛЯ «БЕЛАРУСБАНКА»

**Форма № ПД-5**

**ИЗВЕЩЕНИЕ**

УНН 101562750 **Редакция газеты «Наша СВАБОДА»**
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя **3012205160015** Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество)

(адрес)

На 2000 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

**За подписку на газету «Наша СВАБОДА»** Сумма

Пеня

Всего

Кассир Плательщик

УНН 101562750 **Редакция газеты «Наша СВАБОДА»**
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя **3012205160015** Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество, адрес)

На 2000 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

**КВИТАНЦИЯ**

**За подписку на газету «Наша СВАБОДА»** Сумма

Пеня

Всего

Кассир Плательщик

АРМІЯ

# У палкоўнікаў падняўся статус

Алег САКАЛОЎ, БелаПАН

**Згодна з новым Палажэннем аб праходжанні ваеннай службы афіцэрскім саставам Узброеных сілаў Рэспублікі Беларусь, вайсковае званне «палкоўнік» будзе прысвойваць не міністр абароны, а прэзідэнт краіны. Гэта адна з навінаў, што ўтрымліваецца ў дакуменце, які ўступіў у сілу 28 ліпеня.**

Каментуючы Палажэнне ў газеце міністэрства абароны «Во славу Родины», намеснік начальніка ўпраўлення кадраў МА Аляксандр Цапота адзначыў, што такое нawaўвядзенне «значна падымае статус гэтага высокага вайсковага звання».

Сярод іншых навінаў А.Цапота вызначыў норму, згодна з якой пазбаўленне вайсковых званняў афіцэраў, якія знаходзяцца на ваеннай службе і ў запасе, будзе ажыццяўляцца толькі па прыгаворы суда пры асуджэнні іх за ўчыненае злачынства. У гэтым выпадку асобы, пазбаўленыя афіцэрскіх званняў, звальняюцца ў запас як радавыя, якія праходзілі службу па кантракце, з адпаведнымі змяненнямі ў пенсійным забеспячэнні. У Палажэнні таксама замацавана, што афіцэры, у дачыненні да якіх вядзецца следства ці крымінальная справа разглядаецца судом, не падлягаюць звальненню з ваеннай службы да прыняцця рашэння па справе.

Асобна ў Палажэнне ўведзеная норма, накіраваная на замацаванне на ваеннай службе вострадэфіцытных кадраў. Згодна з ёю, старшыя і вышэйшыя афіцэры з ліку прафесарска-выкладчыцкага і навуковадаследчага складу, іншыя высокакваліфікаваныя спецыялісты, якія дасягнулі гранічнага ўзросту знаходжання на ваеннай службе, па рашэнні прэзідэнта Беларусі з іх згоды могуць быць паўторна пакінутыя на ваеннай службе на тэрмін да пяці гадоў.

Яшчэ адно новаўвядзенне датычыцца абмежаванняў у дачыненні да афіцэраў, якія адбываюць пакаранні ў выглядзе абмежавання па ваеннай службе або арышту. Паводле словаў намесніка начальніка ўпраўлення кадраў МА, час адбывання пакарання такімі афіцэрамі не залічваецца ў тэрмін выслугі ў аднолькавым званні і для прысваення чарговага вайсковага звання.

Згодна з указам прэзідэнта аб зацвярджэнні Палажэння аб праходжанні ваеннай службы афіцэрскім саставам Узброеных сілаў, яго дзеянне распаўсюджваецца таксама на афіцэрскі састаў унутраных, пагранічных і чыгуначных войскаў, іншых вайсковых фарміраванняў, у якіх заканадаўствам прадугледжаная ваенная служба. ■

